

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №14 (65)**
**ВЕРАСЕНЬ 2017 ГОДА**

ПАЛІТЫЧНЫЯ РЭПРЭСІІ

## КАТАВАНЬНЕ СЬВЯТЛОМ, КАТАВАНЬНЕ ГОЛАДАМ...

**Героем матэрыялу пра ўмовы ўтрыманьня ў ізалятарах часовага ўтрыманьня Віцебскай вобласьці стаў актывіст партыі БНФ з Гарадка Леанід Аўтухоў.**

Апазыцыянэр браў актыўны ўдзел у сьвяткаваньні Дня Волі ў Віцебску 25 сакавіка, за што быў пакараны 15-цю суткамі адміністрацыйнага арышту паводле артыкулу 23.34 КаАП (парушэньне парадку арганізацыі ці правядзеньня масавага мерапрыемства).

У ІЧУ зараз я трапіў, мабыць, раз чацвёрты ў жыцьці. Калі такое здарылася ўпершыню — ужо ня памятаю дакладна, бо мінула шмат гадоў. Але з таго часу нічога не зьмянілася. Хіба толькі абслугоўваючы пэрсанал стаў больш лагодна ставіцца. А першы раз калі патрапіў, тое быў жах. Раней ахоўнікі былі нахабныя, упэўненыя, а зараз адчуваю, што яны ўжо не такія ўсёмагутныя, што надыходзіць, мабыць, іншы час. Там жа хлопцы недурныя — разумеюць, што ў грамадзтве насьпелі перамены. Яны адчуваюць гэтыя перамены мо’ лепш за нас.

Карацей, пэрсанал, ахоўнікі проста выконвалі сваю працу і ставіліся да нас няблага. Прычым ня толькі да «палітычных», але і да звычайных насельнікаў ІЧУ: хлопец, што сядзеў са мной, сядзеў па справе — ён ужывае сьпіртныя напоі, потым выходзіць на двор і хуліганіць — дык і да яго адносіны былі нармальныя. Прэтэнзіяў да абслугоўваючага пэрсаналу ў мяне няма ніякіх. Але ёсьць шмат нараканьняў да самой сыстэмы.

Мяне зьмясьцілі ў 2-мясцовую камэру. Два дні перад тым, да суду, знаходзіўся ў іншай камэры, а як суд адбыўся — увесь час у адной і той жа камэры, нікуды не пераводзілі. Разам са мной сядзеў хлопец з Полацку. У яго былі запазычанасьці (неадбытыя суткі адміністрацыйных арыштаў па раней прынятых пастановах суду ) — ён туды зайшоў дужа надоўга. У яго не было падтрымкі звонку, бо мае маці адну. Дык ён мне быў дужа ўдзячны, таму што я меў дапамогу ад сяброў; жонка, сям’я мяне падтрымлівалі, — а ён сядзеў без цыгарэт і ня меў дадатковай ежы. Таму са мной яму пашанцавала. Ён казаў: «Я знаходжуся, нібы дома».

Умовы ўтрыманьня? 2-мясцовая камэра — мала месца. Па-другое, блізка знаходзіцца прыбіральня. Стол для прыманьня ежы — у прыбіральні. Няма ж там ніякіх ані загародак, ані заслонаў. Усё ў адным месцы. Дык што 15 дзён сядзеў як у прыбіральні ўвесь час.

Падрабязьней пра саму прыбіральню. Не працуе змыў — яго наогул не існуе. Добра, што перадавалі ваду, дык пляшкі гэтыя плястыкавыя набіраеш — і змываеш. Мне перадавалі ваду ў 6-літровых пляшках, дык мы змывалі добра, а ў іншых камэрах усё больш жахліва. Праўда, усталявалі ўнітаз. Кажуць, што гэта дзякуючы нейкім эўрапейскім грошам.

Спальнае месца? 2-ярусная шконка (нары ) — мэталёвы каркас, дошкі — ну як звычайна. Бялізна — першы тыдзень была добрая, а потым ужо ня вельмі, але гэта дробязь.

На шпацыр вадзілі, калі мы прасілі. Блізу кожнага дня хвілін па трыццаць. Аднаго разу толькі ня вывелі, але папрасілі прабачэньня, бо там у іх было нейкае здарэньне і ня мелі часу. Дык сказалі: «Выбачце, хлопцы, заўтра выведзем». І сапраўды, назаўтра вывелі — дык мы мелі шпацыр колькі хацелі.

У душ — хадзіў адзін раз. Хаця наогул не зьбіраўся — хацеў перацярпець два тыдні і пасьля ў лазьню схадзіць. Але сукамэрнік папрасіўся ў душ, ну і я пайшоў разам зь ім.

А цяпер — галоўнае. Што там розныя абмежаваньні, цьвёрдая шконка, прыбіральня... — справа ня ў тым. Мы ж ішлі не на курорт. Але сапраўдны жах — харчаваньне. У мяне ўзрост ужо такі, што мушу ўважліва ставіцца да ежы. Дык там — сапраўднае катаваньне ежай. Дакладней, катаваньне голадам.

Яшчэ як першы раз патрапіў у ІЧУ, пакаштаваў іх катлету. Смак яе стаяў у мяне доўга. Гэтым разам я ніводнай катлеты ня зьеў. Пра гэтую катлету яны кажуць: «Мы бяром харчаваньне з аблвыканкаму». Дык як зьменіцца ўлада, трэба сабраць іх усіх у адной камэры і карміць гэтымі катлетамі — трэба толькі захаваць прозьвішча таго кухара, ды каб ён не забыў рэцэпт.

Я мяркую, што ў сучасным сьвеце нельга так карміць людзей — нашмат горш, чымся я кармлю сабаку. У мяне лепшае стаўленьне да сабакі, ніж стаўленьне «лукашызму» да людзей, якія патрапілі часова. Там дробныя хуліганы, зладзюжкі, але ж яны — людзі! Катаваньне голадам, калі ўвесь час хочаш есьці, людзей ломіць. І трэба гэта спыніць: нельга, каб чалавек хацеў есьці ў 21-м стагодзьдзі!

Таксама хачу сказаць пра сьвятло. Яно ў камэры гарыць цэлымі суткамі. Спаць замінае, але каб чытаць, яго недастаткова. А я ўвесь час чытаў, бо чым яшчэ там займацца? Сёе-тое зь літаратуры я і там браў, але ў іх усе кніжкі па-расейску. Таму мне ў асноўным кнігі з волі перадавалі — на беларускай мове, я іх там і пакінуў — хай чытаюць іншыя. Дык калі чытаеш пры такім сьвятле — дык такое напружаньне, што ў мяне, напрыклад, балела галава — мне ж ня 20 гадоў. Сусед малады быў, гадоў 25, дык і ён стараўся ня шмат чытаць праз асьвятленьне: «Пачытаў крыху — адпачні». Брак сьвятла для чытаньня — гэта таксама катаваньне.

Ці наўмысна гэта так зроблена, каб адабраць у чалавека здароўе? Калі так, то як зьменіцца ўлада, павінна быць расьсьледаваньне і пакараньне — так нельга, каб сьвятла не хапала. За 15 дзён я пасадзіў зрок — выйшаў і ўжо зараз карыстаюся акулярамі, каб пачытаць.

Катаваньне сьвятлом, катаваньне голадам... Што яшчэ запомнілася? Радыё, якое грае цэлы дзень. Яно таксама прычыняла мне пакуты. Замест навінаў — прапаганда. Усё па-расейску, беларускага не было нічога. А я ж ня слухаю такога.

**https://vitebskspring.org**

*Чытайце сайт Віцебскага раёна:*
**http://vicebskreg.by**

ПАМЯЦЬ

## УСТАЛЯВАЛІ КРЫЖЫ

**Актывісты ініцыятыўнай групы «Хайсы» усталявалі тры вялікіх металічных крыжа ва ўрочышчы каля вёскі Хайсы Віцебскага раёна - на месцы, дзе знайшлі масавыя пахаванні людзей. Гэта месца ў народзе называюць «віцебскімі Курапатамі».**

У лістападзе 2014 года каля дарогі Р-115 у лясным масіве побач з вёскамі Дрэколле і Хайсы людзі знайшлі больш за 40 раскапаных ям з чалавечымі парэшткамі. У большасці чэрапаў у патылічнай або цемяннай частцы меліся адтуліны, хутчэй за ўсё кулявыя. Старажылы распавядаюць, што тут у 1938-1939 гадах расстрэльвалі людзей. У 2016-м знойдзеныя парэшткі перазахавалі ў брацкай магіле каля чыгуначнай станцыі Лужасна. Але не як ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, а як ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.

Вясной 2017-га косткі і чарапы з адтулінамі ў вобласці патыліцы (меркавана, ад куль) выявілі ўжо ў іншай частцы лесу пад Хайсамі, прыкладна ў 300-400 метрах ад пахаванняў, знойдзеных ў 2014-м. 7 вялікіх раскопаў і каля 10 маленькіх ям ўбачыў мясцовы жыхар.

Побач з парэштакмі знаходзіліся прадметы – акуляры, гузікі, расчоскі, гумавая абутак, посуд і г.д. На некаторых рэчах быў бачны год выпуску – часцей усяго 1937-ы. У магілах і ля іх ляжала вельмі шмат куль, іх тут збіралі дзесяткамі.

На месцы пахаванняў працавалі спецыялісты 52-га пошукавага батальёна і навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. У заключэнні Інстытута НАН сказана, што сабраныя знаходкі (гільзы, абутак, прадметы індывідуальнага выкарыстання, манеты, гузікі і інш.), чарапы з агнястрэльнымі раненнямі і спосаб пахавання з'яўляюцца ўскоснымі сведчаннямі масавых рэпрэсій на тэрыторыі БССР перыяду 1937-1938 гадоў.

Пасля заканчэння ўсіх пошукавых і архіўна-даследчых работ ва ўрочышчы Хайсы разгледзяць пытанне аб наданні гэтай тэрыторыі статусу гісторыка-мемарыяльнага месца. Такі адказ на запыт атрымала Віцебская арганізацыя партыі БНФ ад аблсавету дэпутатаў.

**А.Адамаў**

УРАДЖАЙ 2017

## РАДУЕ ЎРАДЖАЙ БУЛЬБЫ

**У ПК «Альгоўскае» інтэнсіўна займаюцца вырошчваннем бульбы, які рэалізуецца ў гандлёвую сетку г. Віцебска. Сягоння ён вырашчаны на 145 гектарах.**

Чакалася, што з-за халоднай вясны, не спякотага лета будзе недабор ураджаю. Аднак скардзіцца на гэтыя фактары не даводзіцца: з гектара збіраецца па 250, а з асобных участкаў па 300 і больш цэнтнераў. Калі надвор'е спрыяе, штодня ў сховішчы паступае да 1000 тон клубняў.

- Адаптаваны на нашых землях перспектыўныя, найбольш ураджайныя гатункі «скарб», «маніфест», - распавядае вядучы аграном Сяргей Жаваранкаў.

Едзем на бульбяныя плантацыі каля аг. Бабінічы. Ажылі яны ўжо ў восем раніцы. Ўвагу звярнулі чыстыя, без бацвіння грабяні. Па іх лёгка ішлі камбайны, напаўняючы бункеры адборнымі клубнямі. Вось адзін для выгрузкі спыняецца ля дарогі. Знаёмлюся з механізатарам: Уладзімір Бублік. Пераехаў у гаспадарку з Харкаўскай вобласці. Пяць гадоў водзіць МТЗ-1221.

- У асноўным займаюся ўзворваннем і культывацыя глебы. Перакінулі на бульбу - таксама мая любімая праца, - усміхаецца Уладзімір.

Клубні выгружаліся ў кузаў МАЗа Аляксандра Генюка. Кіроўца - на ўсе часы. Перавозіў кармы, зерне, а цяпер рэйс за рэйсам робіць з бульбай. На поле знаходзяцца яшчэ два камбайны. Кіравалі імі механізатары Віталь Гнутенко і Міхаіл Булатаў. Дапамагалі абслугоўваць ўборачны працэс прыцягнутыя з Віцебска рабочыя. У прыватнасці, з прадпрыемства «Зелянгас» прыехаў у камандзіроўку на трактары Юрый Пруднічэнка. Начапіўшы бульбакапалку, ён акуратна праходзіць гектар за гектарам. За ім яго калега Міхаіл Пыльчанка. Прычэп загружаецца, і сабраныя клубні трактарам гараджанін перавозіць на сартаванне.

Начаваць паднятым бульбе не даюць. Сіл хапае сабраць увесь днём.

- Другі хлеб, нягледзячы на капрызнае надвор'е, прыбярэм, нададзім гатунак і закладзем ў поўным аб'ёме на захоўванне. Паралельна рыхтуем насенне пад будучы ўраджай, - дзеліцца Сяргей Жаваранкаў – дасведчаны тэхнолаг палёў.

**Мікалай Кахно.**
**Жыццё Прыдзвіння”**

ПРА НАС

# «КАЛІ НАРОД ЗАЖЫВЕ ШЧАСЬЛІВА»

**У часе электаральных кампаніяў, калі абвастраюцца спрэчкі пра народ і праблемы Беларусі, мне прыходзяць на памяць словы Кастуся Каліноўскага: «Толькі тады, народзе, зажывеш шчасьліва, калі над табою маскаля ўжо ня будзе!»**

Некаторыя крыўдуюць на слова «маскаль». Насамрэч крыўдаваць трэба на слова «над». «Над» – гэта значыць, што мы «пад».

У адрозьненьне ад радыкальных змагароў з усімі на сьвеце, я не магу сказаць, што «маскалі» (расейская нацыя) – заганныя ў сваёй сутнасьці. На маю думку, такой ці інакшай нацыю робяць абставіны. Таму ў словах Каліноўскага няма абразы расейцаў. Але чаму мы павінны быць пад імі, а ня самі па сабе?

Між тым, гэтае «пад» выяўляецца на кожным кроку нашага беларускага існаваньня.

Яно – у безумоўным вяршэнстве расейскай мовы – пасьля рэферэндуму 1995 году. Нічога ня маю супраць расейскай, як і іншай якой мовы. Але ўсё нутро пратэстуе супраць гэтага «пад», якое ўелася ў наша жыцьцё так глыбока, што нават у польскім кансуляце ў Менску беларусу кажуць: «Кто вам разрешил заполнять анкету на белорусском языке?»

Яно – у вяршэнстве расейскіх прапагандысцкіх тэлеканалаў над беларускімі, якія і самі, прыгнуўшы галаву, у кожных навінах паведамляюць пра надвор'е на Калыме. Для дзяцей гэта пусты гук, а для тых, хто трохі ведае не такую даўнюю гісторыю, гэта гучыць як «И о погоде в ГУЛАГе».

Яно – у шматстайных маскоўскіх модах, у «модным» рэдукцыі беларускамоўных, у называньні дзяцей на маскоўскі манер – Стас, Яна, Влад замест сваіх беларускіх – Стась, Яня, Уладзя, у нічым не вытлумачальнай прысутнасьці больш якасных расейскіх прадуктаў у краме – цукру, масла, піва…

«Масква ў галаве», як пяе Кася Камоцкая, сустракаецца паўсюдна і заўсёды, нязьменна прыводзячы да нонсэнсаў і непісьменнасьці. Вось толькі што ў радыё прарэклямавалі: «Новое на Куфаре». Ну ўзялі беларускі куфар за назву папулярнага партала, дык скланяйце яго правільна, у тым ліку па-расейску. Вы ж ня кажаце «на ковёре». І гэта прыклад, выхаплены з плыні тысяч падобных.

У беларусаў у дачыненьні да сябе, свайго жыцьця, народа, краіны быццам прапала астатняя крытычнасьць. Начальства кажа нешта – хай будзе так, тэлевізар сказаў – хай будзе так, людзі гавораць – хай будзе так. Але гэткая атрафія ніколі не бывае бясконцай і бяскрыўдна не скончаецца.

Сёньняшняя палітыка Масквы вераломная, ідзе міма правіл, міма дамоўленасьцяў. Галоўнае – памецiць тэрыторыю, увязацца ў бойку, падмяшаць табе чаго-небудзь ува штонебудзь, а там разьбярэмся.

«Маскаль над табой» ня толькі звонку. Найбольш цяжкая форма, калі ён унутры. Гэта форма звыклага за шмат гадоў, а таму «нармальнага» і адзіна прымальнага рабства, якое агрэсіўна адмаўляе правы чалавека, гэта значыць, здаровы розум. Жыць «пад» па-свойму ўтульна, адмовіўшыся ад богам дадзенага шчасьця свабоды, якое ведаюць нават птушкі. Адмовіўшыся ад шчасьця роўнасьці ўсіх з усімі і ва ўсім. (Якая ж роўнасьць, калі ты «пад»?) Адмовіўшыся ад шчасьця братэрства, якое даецца праз адчуваньне сябе адзіным народам, адзінай нацыяй.

**Сяргей Дубавец**
**www.svaboda.org**

КУЛЬТУРА

# ФОТАВЫСТАВА «МЫ З БЕЛАРУСІ»

**У другой па ліку міжнароднай фотавыставе «Мы з Беларусі» прынялі ўдзел фатографы як з Віцебску, так і з іншых гарадоў і мясцін Беларусі.**

Намеснік мэра Хайфы Юлія Штрайм у пісьмовым звароце даслала прывітанне аўтарам і гасцям выставы: "Паважаныя наведвальнікі выставы "Мы з Беларусі«,шчыра вас вітаем! Мы вельмі рады, што выстава, якая ў лютым дэманстравалася ў Хайфе, сёння адчыняецца ў беларускім Віцебску.

На выставе прадстаўлены фатаздымкі аўтараў з усёй Беларусі, у праекце мог прыняць удзел любы, хто лічыць Беларусь сваёй Радзімай. Працы прафесійных фатографаў на выставе мала адрозніваюцца ад здымкаў аматараў, асабліва, калі на фота адлюстраваны любімыя віцебскія краявіды.

«Паважаныя арганізатары, удзельнікі і госці мерапрыемства! Сардэчна віншую вас з адкрыццём другой фотавыставы „Мы з Беларусі" у культурнай сталіцы краіны, родным горадзе нашага выдатнага земляка — мастака Марка Шагала. Экспазіцыя арганічна ўпісваецца ў серыю падзей, якія адзначылі сабой важную веху ў сферы двухбаковага супрацоўніцтва ў юбілейным годзе; 25 гадоў таму былі ўсталяваны дыпламатычныя адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Дзяржавай Ізраіль. Спадзяюся, што гэтая экспазіцыя фотаработ зможа закласці добрую традыцыю, якая працягнецца і ў наступныя гады і зойме прыкметнае месца ў культурным жыцці Віцебска, выклікаючы нязменную цікавасць жыхароў і гасцей гораду.» — звярнуўся да ўдзельнікаў і наведнікаў міжнароднай выставы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль Уладзімір Скварцоў.

Да гледачоў звярнуліся і заснавальнікі праекту фатографы з Хайфы Барыс Беленькі і Леў Тарнопольскі: «Дарагія сябры, калегі, землякі! Вітаем вас з адкрыццём другой сумеснай фотавыставы: „Мы з Беларусі". Мы вельмі рады нашаму сяброўству і агульным творчым поспехам і верым, што не спынімся на дасягнутым. Нам вельмі хочацца, каб у наступным годзе ў нас у Хайфе адбылося адкрыццё фотавыставы віцебскіх фотамайстроў, а выстава „Мы з Беларусі" стала чаканай кожны год. Жадаем вам далейшых творчых поспехаў».

**Юрый Шэпелеў**
**ННВ**

ЭКАНОМІКА

# НОВЫЙ ЭТАП «КОММУНАЛЬНОГО» ГРАБЕЖА

**В правительстве рассказали, когда белорусы выйдут на полную оплату услуг ЖКК.**

«В первой половине следующего года население будет вносить стопроцентную оплату по основным жилищно-коммунальным услугам, за исключением теплоснабжения», — отметил заместитель премьер-министра Анатолий Калинин в Минжилкомхозе, где обсуждали вопросы ЖКХ.

Вице-премьер также отметил, что тарифы на теплоснабжениев силу того, что это достаточно затратная подотрасль, будут повышаться постепенно, в зависимости от доходов населения, сообщает портал коммунальной грамотности населения.

Ранее заместитель министра антимонопольного регулирования и торговли Иван Вежновец заявил, что с учетом двух индексаций (1 сентября и 1 декабря) и запланированного с 1 января 2018 года повышения платы за ЖКУ в пределах 5 долларов белорусы будут оплачивать «коммуналку» на 100%, за исключением расходов на тепловую энергию.

По его словам, с учетом тарифов на теплоэнергию уровень возмещения населением комплекса коммунальных услуг к концу этого года вырастет до 74,8%. До конца 2018 года этот показатель достигнет 85%, до 2020 года — будет 93,3%, а вот планируемые 100% достигнуть можно будет только в 2025 году

Напомним: о том, что белорусы с 1 января 2018 года выйдут на 100%-ный уровень возмещения затрат по всем услугам ЖКХ, кроме тепловой энергии, заявил министр жилищно-коммунального хозяйства Александр Терехов на расширенном заседании Президиума «совета республики» и Совета по взаимодействию органов местного самоуправления при верхней «палате» «парламента».

В Минжилкомхозе также рассмотрены предложения по увеличению использования местных видов топлива, децентрализации схем теплоснабжения населенных пунктов, а также осуществлению расчетов за древесное топливо и регулированию цен на него.

Кроме работников Министерства ЖКХ, в обсуждении вопросов ЖКХ приняли участие представители МАРТ, Минздрава, Минприроды, Минлесхоза, Минэнерго, облисполкомов и Минского горисполкома, государственных объединений и управлений ЖКХ, водоканалов и районных ЖКХ.

Напомним, что с 1 сентября для белорусов выросли цены на природный и сжиженный газ, а также тарифы на электрическую и тепловую энергию. Индексация предусмотрена постановлением Совета министров от 24 августа 2017 года № 641. Таким образом, за коммунальные услуги потребители платят на 8% больше.

**https://charter97.org**

ГАНДАЛЬ

# ОВОЩИ ИЗ РУДАКОВО НА ЭКСПОРТ

**Томаты, огурцы и зелень из ОАО «Рудаково» Витебского района отправляются не только в магазины Витебщины, но и за рубеж.**

Погода не влияет на сбор урожая в теплицах. Строго по графику овощи собирают и отправляют потребителям. Здесь выращивают томаты, огурцы и зелень: салат, укроп, петрушку, базилик и рукколу.

По словам начальника производства тепличного комбината Раисы Крупатиной, за 8 месяцев 2017-го выращено почти 8,4 тыс. т овощей. Объем производства находится примерно на уровне прошлого года, однако выручка больше.

Продукция главным образом реализуется в магазинах Витебска, выездная торговля также осуществляется в близлежащих регионах. Знают вкус помидоров и огурцов из «Рудаково» в Минске, Москве, Санкт-Петербурге, Калининграде. Соотношение цены и качества привлекает покупателей, в том числе оптовых.

В коллективе тепличного комбината трудятся 300 человек. Раиса Крупатина отмечает, что работницы должны обладать двумя основными качествами — быть физически выносливыми и скорыми на руку. Без этого нельзя рассчитывать на высокие показатели и, соответственно, хорошую зарплату. За каждым закреплено 3 тыс. растений, которые требуют ежедневного ухода. В период сбора урожая лучшие могут зарабатывать до 1 тыс. руб. (средняя зарплата превышает 600 руб.).

Скоро завершится очередной сезон, и тепличный комбинат начнет подготовку к следующему, чтобы на столе жителей Витебщины всегда были свежие овощи.

**http://vitvesti.by**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдефануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

«ЗАХАД-2017»

# ЛУКАШЭНКА ПАКРЫЎДЗІЎСЯ?

**Вайсковыя вучэнні «Захад-2017» скончыліся. Расійская тэхніка пакідае межы Беларусі. Што пісалі пра вынікі вучэнняў у Расіі? «Наша Ніва» зрабіла падборку меркаванняў.**

**Росбалт: Лукашэнку ўказалі яго месца?**

«Расійска-беларускія вучэнні «Захад-2017» скончыліся зруйнавальнай паразай — як ўмоўнага праціўніка, так і добрых адносін Мінска з усімі суседзямі», — адзначае выданне Росбалт.

Аўтар матэрыяла Дзяніс Лаўнікевіч адзначае, што Расіі цяпер ужо зусім неабавязкова праводзіць гібрыдную акупацыю Беларусі, бо «несамастойнасць афіцыйнага Мінска і яго бездапаможнасць у вайскова-палітычным плане была прадэманстравана ўсяму свету, а адносіны з суседзямі — начыста сапсаваныя».

«Цяпер можна смела выказаць здагадку, што пасля завяршэння вучэнняў адносіны паміж Мінскам і Масквой нейкі час будуць дастаткова прахалоднымі. Расія занадта ярка прадэманстравала несамастойнасць Беларусі ў вайскова-палітычных пытаннях і яе нікчэмную значнасць у рэгіёне ў выпадку сілавога супрацьстаяння.

Зразумела, што беларускае кіраўніцтва пакрыўдзілася: выходзіць, што падчас вучэнняў Крэмль папросту выкарыстаў саюзніка як сатэліта, каб падкрэсліць уласную вайсковую сілу. Пасля гэтага, атрымліваецца, еўрапейцам проста няма пра што весці перамовы з афіцыйным Мінскам — цяпер усё выглядае так, што ад Лукашэнкі ў рэгіёне ў пытаннях бяспекі рэальна нічога не залежыць», — адзначае Росбалт.

**«Баявыя сябры» рассварыліся?**

Вайсковы аглядальнік Аляксандр Гольц піша: «Выснова, якая вынікае з вучэнняў «Захад-2017», заключаецца ў тым, што ніякай аб'яднанай расейска-беларускай рэгіянальнай групоўкі войскаў не існуе ў прыродзе. Бакі нават не лічаць патрэбным апаратыўна дамаўляцца пра сцэнар баявых дзеянняў, які яны адпрацоўваюць».

«На працягу многіх гадоў Лукашэнка спрытна гуляў на комплексах расійскага кіраўніцтва, ніяк не жадаючага змірыцца з адсутнасцю рэальных вайсковых саюзнікаў. Ён умудрыўся атрымліваць шматмільярдныя эканамічныя бонусы ў абмен на славесныя запэўніванні у гатоўнасць ваяваць плячом да пляча з расейцамі. Але вось пасля анексіі Крыма і сакрэтнай вайны на Данбасе натаўскія батальёны разгарнуліся ў краінах Балтыі і Польшчы. Вайсковае супрацьстаянне Расіі і Паўночнаатлантычнага альянсу стала рэальнасцю. І беларускі лідар імгненна зразумеў: у гэтым выпадку вайсковыя аб'екты на тэрыторыі яго краіны ператвараюцца ў мэты першага ўдару. І неадкладна адмовіўся ад сваіх абяцанняў. Ён да бясконцасці удакладняе палажэнне аб Адзінай сістэме СПА, адхіляе любую магчымасць размяшчэння расійскай авіябазы ў Беларусі. Так што нельга выключаць, што «Захад-2017» стане пачаткам размежавання дзвюх краін у вайсковай сферы», — прагназуе Аляксандр Гольц.

**Лукашэнка пакрыўдзіўся?**

«Адносіны Расеі і Беларусі зноў коцяцца пад гару — перш за ўсё праз загад Пуціна, які запатрабаваў, каб беларускія вытворцы нафтапрадуктаў гандлявалі імі праз расейскія, а не прыбалтыйскія парты. Бацька, як кажуць, не на жарт пакрыўдзіўся. А убачыўшы, што тэма вучэнняў выклікае неадназначную рэакцыю на Захадзе, з якім Мінск цяпер яўна не мае намеру сварыцца, вырашыў лішні раз не "свяціцца" у кампаніі расейскага прэзыдэнта», — робіць высновы «Московский комсомолец».

**Лукашэнка манеўрамі задаволены**

«Независимая газета» не верыць у бясхмарнасць адносін паміж Мінскам і Масквой, нягледзячы на ўсе запэўніванні Лукашэнкі.

«Разнагалоссі паміж саюзнікамі нікуды не дзеліся, нягледзячы на красавіцкае нафтагазавае перамір'е. Той факт, што назіраць за вучэннямі разам з Лукашэнкам не прыехаў нават міністр абароны Расіі Сяргей Шайгу, толькі ўмацавала ў гэтым меркаванні.

Адносна рэальных прычын паасобнага ўдзелу «ў вайне» мясцовыя аналітыкі будуюць розныя версіі. Ад бяскрыўднай, што «не хацелі яшчэ больш дражніць Захад» да «асноўныя падзеі вучэнняў праходзяць зусім не ў Беларусі, а ў Расеі». Апошняя версія набывае ўсё большую папулярнасць. «Расейцы нечакана для Лукашэнкі разгарнулі значна большыя вучэнні, чым меркавалася па першапачатковым плане. Прычым расійскі бок падвярстаў да «Захаду-2017» цэлы шэраг манеўраў, вучэнняў, якія не планаваліся», — лічыць вайсковы эксперт Аляксандр Алесін. Праігнараваўшы візіт на беларускі палігон, «расейцы паказалі, хто галоўны партнёр», мяркуе эксперт».

**А калі не стане абодвух?**

Па звестках «Коммерсанта», яшчэ ў сераду раніцай беларуская ўлады разлічвалі, што вучэнні наведае міністр абароны Сяргей Шайгу. «Аднак праз падзеі ў сірыйскім горадзе Ідліб яму давялося свае планы перагледзець», — адзначае выданне.

«Падабалася ўсё, што адбываецца на палігоне і Аляксандру Лукашэнку. Спадабалася б, напэўна, і Уладзіміру Пуціну, калі б ён прыехаў у Беларусь. Спадар Лукашэнка пракаментаваў яго адсутнасць на вучэннях коратка: «Калі снарад у адно месца — абодвух адразу не стане». Гэта бы́ў, вядома, жарт: відавочна, так ён намякнуў на інцыдэнт з самаадвольным сходам ракеты з верталёта Ка-52 падчас расійскай часткі вучэнняў у Ленінградскай вобласці», — зазначае «Камерсант».

**Зміцер Панкавец**
**"Наша Ніва"**

ПАМЯЦЬ ПРА РЭПРЭСІІ

# ЦІ ВАРТА АДКРЫВАЦЬ АРХІВЫ КДБ?

**Пад петыцыяй з патрабаваннем зняць грыф «сакрэтна» з усіх дакументаў, якія захоўваюцца ў архівах за 1917–1953 гады, у тым ліку — забяспечыць свабодны доступ да спраў рэпрэсаваных за часамі Сталіна, агучыць і пазначыць усе месцы масавага пахавання рэпрэсаваных падпісалася ўсяго 1137 чалавек.**

Для краіны — гэта кропля ў моры. У Беларусі хапае іншых праблемаў — сацыяльных, эканамічных, дэмаграфічных — і зусім не завязаных на мінулым. Дык навошта адкрываць савецкія архівы зараз, калі ўжо і час прайшоў, і катаў, якія маглі б паўстаць перад судом, няма сярод жывых, і так напісаныя шматтомныя манаграфіі?

З боку сённяшніх нашчадкаў супрацоўнікаў НКУС ды афіцыёзных журналістаў часцяком можна пачуць: «Як гэта, адкрыць архівы? Ды тут такое пачнецца! Помста, разбіральніцтвы, скандалы…» Калі кажуць пра месцы расстрэлаў, па прыкладзе тых жа Курапатаў, зазвычай дадаюць, што ляжаць там далёка не толькі паэты ды навукоўцы. Там багата тых жа супрацоўнікаў савецкіх органаў, якія трапілі пад чарговую хвалю рэпрэсій, — а значыць, і іх трэба ўшаноўваць!

Рэдактар буйной дзяржаўнай газеты, здаецца, нават прыводзіў прыклад сваіх пошукаў у архівах КДБ напачатку 1990-х гадоў, калі наўпрост жахнуўся ад прачытанага: вялізная колькасць тых, хто ў нас прынята шанаваць як літаратараў нацыянальнага значэння, а ў наступным — бязвінных ахвяраў, самі працавалі на органы, здавалі і падстаўлялі сваіх сяброў ды знаёмых. Дык як далей фармаваць нацыянальны пантэон, ведаючы ўсё гэта?

Насамрэч, усе гэтыя аргументы нагадваюць элементарнае «забоўтванне» суразмоўцы. І чым больш туману і містыкі ў падобных размовах, тым страшней павінна быць. Маўляў, хай скрыня Пандоры застаецца зачыненай, бо інакш усё развалiцца: і наша — дзяржаўнае, і ваша — дэмакратычнае.

Пачнём з «вендэты», якая нібыта можа пачацца адразу пасля рассакрэчвання. Сёння мы маем прыклады не толькі краінаў Усходняй Еўропы і Балтыі, дзе архівы апублічаныя амаль 30 гадоў таму, але і Украіны, у якой да дакументаў СБУ доступ адкрылі пасля перамогі Майдану. Скажыце, дзе і калі канкрэтна зафіксаваныя прыклады такога кшталту «вендэты» на падставе архіўных дадзеных? Або нехта лічыць, што кроў у беларусаў больш гарачая за румынскую, вугорскую альбо ўкраінскую?

Ёсць і прыклад Германіі, дзе архівы гестапа і НСДАП з прозвішчамі катаў і ахвяраў трапілі ў агульнае карыстанне адразу пасля вайны. Па-іншаму і быць не магло, бо без агучвання праблемы і яе выніку не магло быць дэнацыфікацыі. Уявіце сабе, каб нехта спрабаваў супрацiўляцца агучванню прозвішчаў ахоўнікаў Аўшвіцу на падставе таго, што ім гэта можа зашкодзіць! Сёння што вертухаі з Калымы, што следчыя з Полацку альбо Баранавічаў, якія працавалі ў 1930–1940-я, даўно знайшлі вечны спакой. Дык чаго баяцца? Адкрыйце архівы.

Калі кажуць пра супрацоўнікаў НКУС, якія могуць ляжаць побач са сваімі ўчорашнімі падследнымі ў Курапатах, дык ніхто ж гэтага і не аспрэчвае. Тым больш, агучванне поўнага спісу прозвішчаў катаў, і ахвяраў, а таксама катаў, якія сталіся ахвярамі, дапамога паказаць трагедыю максімальна шматбакова. Пры падобным рэжыме кіравання ніхто не можа адчуваць сябе ў бяспецы: якія б пагоны альбо шаўроны ні насіў, чый бы партрэт ні стаяў на працоўным стале. Кажаце пра чэкістаў-ахвяраў? Давядзіце, адчыніце архівы.




Аргумент пра тое, што адкрыццё архіваў аўтаматычна здыме німб з пэўнай колькасці нацыянальных дзеячаў, цікавы, але зноў — міма. Калі ты не маеш інфармацыі, асабліва пасля такіх заяў, то і падазраеш усіх. Тут як з фантазіямі раўнівага мужа: калі жанчына можа здрадзіць, значыць, здраджвае штораз, як выходзіць з хаты — нават калі ідзе ў краму па малако. Таму агучванне праўды не толькі здыме німбы з адных, але і дасць безумоўнае алібі іншым, якія адмовіліся, не раскаліся, не здрадзілі. Магчыма, нацыянальны пантэон кагосьці згу¬біць пасля гэтага, але абавязкова кагосьці знойдзе. Каб пераканацца — адкрыйце архівы.

Часцяком можна пачуць рэплікі: маўляў, дзяржбяспека займалася не адно палітыкай, але і крымінальнікамі, і карупцыянерамі, і сапраўднымі замежнымі шпіёнамі, то бок — прафільнай працай. Таму і мазаць чорнай фарбай усіх не варта. Пакінем убаку аналогію, кшталту таго, што КрыПо (крымінальная паліцыя ў Трэцім рэйху) таксама лавіла гвалтаўнікоў і злодзеяў, бо гэта — іх абавязкі, пытанне ў іншым. Калі так — давядзіце гэта, пакажыце сапраўды шчырых чэкістаў з чыстымі рукамі, якія баранілі суайчыннікаў, а не толькі праваднікоў партыі. Як? Адчыніце архівы.

Наогул, уяўленне пра тое, што агучванне нейкай інфармацыі, звязанай са злачынствамі дзяржавы супраць яе грамадзян, можа справакаваць невылечны крызіс у грамадстве, сведчыць толькі аб адным: ні пра які давер паміж уладай і народам размовы быць не можа. Давайце шчыра, крызіс даверу ўжо і так ёсць, і акурат каб яго мінімізаваць, патрэбная празрыстасць сістэмы і права кожнага на праўду. Таму, для пачатку, адкрыйце архівы!

**Алесь Кіркевіч**
**"Новы Час"**

ДЭКРЭТ №3

# ТУНЕЯДЦЫ НЕ ЯВЛЯЮТСЯ НАГРУЗКОЙ НА БЮДЖЕТ…

**Оппозиция представила свою альтернативу декрету «о тунеядцах» на пресс-конференции правоцентристской коалиции в виде пакета законопроектов, альтернативных декрету № 3 «О предупреждении социального иждивенчества».**

Как сообщил руководитель рабочей группы по разработке проектов документов, глава Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук, анализ декрета номер № 3 показал, что «научной ценности данный документ не имеет, так как содержит противоречия и вызывает негативные явления, о которых говорят не только политики, но и люди». «Заявление о том, что тунеядцы являются нагрузкой на бюджет, — выдумка. Даже в цене продуктов около 30% — налоги. В итоге в год около 6,5 млрд долларов налогов граждане уплачивают косвенно, через покупку товаров и услуг», — сказал он.

Разработанный пакет альтернативных документов, по словам Романчука, предусматривает комплекс мер по обеспечению «быстрого, долгосрочного инклюзивного экономического роста». В частности предусмотрено принятие законопроекта об адресной социальной защите, переход в режим финансирования начального и среднего образования посредством образовательных ваучеров, а также переход в режим страховой медицины посредством открытия каждым гражданином страхового медицинского накопительного счета.

Правоцентристы намерены вынести разработанные проекты на широкое общественное обсуждение, а также передать их в заинтересованные ведомства и организовать ряд круглых столов, в том числе в регионах. «Мы хотели бы, чтобы граждане могли сформировать свое мнение по поводу новой редакции декрета, разрабатываемого властью, и нашего альтернативного проект документов», — пояснил председатель ОГП Анатолий Лебедько.

По словам председателя движения «За Свободу» Юрия Губаревича, государство должно вывести экономику из тени. «Наш проект документов показывает, как легальными путями улучшить финансирование бюджета и различных госпрограмм, не используя в экономике репрессивный путь», — сказал он.

«Мы понимаем, что изменения в нашей стране могут быть связаны не с репрессивными декретами, а проведением глубоких реформ», — добавил сопредседатель оргкомитета БХД Виталий Рымашевский.

Депутат Палаты представителей Анна Канопацкая, которая является членом ОГП, подчеркнула, что правоцентристы выносят документы на всеобщее обсуждение, а не «готовят их втихаря, как власти». «Мы исходили из того, что именно реформы нужны стране для выхода из социально-экономического и политического кризиса», — заявила она.

Первоначально планировалось, что пресс-конференция состоится в Палате представителей, однако оппозиционным политикам отказали в доступе в парламентский пресс-центр. В итоге мероприятие прошло в отеле «Монастырский», после чего Канопацкая одна презентовала альтернативные декрету № 3 документы в Палате представителей.

Декрет № 3 обязывает граждан Беларуси, постоянно проживающих на территории страны иностранных граждан и лиц без гражданства, которые не участвовали в финансировании государственных расходов или участвовали в таком финансировании менее 183 календарных дней в году, уплачивать сбор в 20 базовых величин. Иначе им грозит штраф или административный арест. Декрет вызвал протесты граждан, пик которых пришелся на весну этого года.

По данным Министерства по налогам и сборам, сбор уплатили более 54 тыс. человек из 470 тыс., которым были разосланы уведомления. В местные бюджеты поступило 16,3 млн рублей.

В начале июля Александр Лукашенко распорядился начать возврат сбора, уплаченного по декрету. Деньги возвращаются только тем, кто смог трудоустроиться. На совещании 3 августа он заявил, что «никакой отмены декрета № 3 быть не может», речь идет о новой редакции этого документа.

**Сергей Королевич**
**naviny.by**

"НА КАРТОШКУ"

# «… БЕСПРАВНОЕ МОЛЧАЛИВОЕ БЫДЛО»

**Трагедия в Молодечненском районе, когда во время уборки урожая погибла 13-летняя девочка, оставила свой отпечаток на системе помощи сельхозпредприятиям. Теперь главными трудовыми ресурсами станут учащиеся колледжей, учителя. «На картошку» отправляются, в большинстве своем, женщины и ученики колледжей.**

К сожалению, нередко работники бюджетных организаций предпочитают молчать и терпеть даже тогда, когда им предлагают не самые выгодные условия труда. К нам обратилась Васильева Анна Аркадьевна, педагог высшей категории с более чем 30-летним стажем из средней школы № 1 Новолукомля (Витебская область). Ее коллектив также был призван на сельскохозяйственные баррикады страны, причем на сбор урожая педагогам предлагается потратить свой методический день. Ведь помощь следует оказать без ущерба для учебного процесса.

«В нашей школе висит объявление о том, что учителя в свой методический день или в субботу (по графику) должны выехать на сельхозработы в КУСХП „Кащенское“. Предприятие обещает своевременную оплату в натуральной форме. Поясняю: за урок учитель со стажем и высшей категорией получает чуть меньше 5 рублей. Мне за 4-5 часов тяжкого физического труда заплатят, в лучшем случае, ведром картошки.

Нашего согласия никто не спрашивает. Никакого договора со мной лично предприятие на заключало. Я не поеду. Мне 56, контракт со мной на год, надбавка маленькая. То есть наказать меня сложно — я ничем не рискую. Но жалко людей. Ведь загонят. А они только мычать будут, потому что существующая система контрактов и надбавок за лояльность сделала из учительства, да и других наёмных работников, бесправное молчаливое быдло»

Можно понять возмущение женщины: какое отношение педагоги могут иметь к уборке картофеля? Тем более трудно представить, что учителей ожидает достойная оплата за тяжелый физический труд. На следующий день, после того как Анна Аркадьевна связалась с нами, мнение руководства по поводу сельхозработ изменилось:

«Директор сказала мне, что я не еду, что завуч, составлявшая этот график поездок в колхоз, не учла всех обстоятельств. О каких обстоятельствах она говорила, я не стала уточнять. Мне всё равно — еду или не еду. Меня возмущает сам факт того, что людей принуждают к практически бесплатному труду и делает это государственный орган власти, открыто и беспардонно. И все молчат. Детей боятся посылать после прошлогодней трагедии с девочкой в Молодечненском районе. Зато могут послать без оформления трудовых отношений женщин. А не дай Бог, кому-то плохо станет, кто-то после заболеет... Будет как с той девочкой: вы не работник данного предприятия, с вами не заключался договор»

Чтобы разобраться в ситуации, с которой столкнулась Анна Аркадьевна, мы обратились за комментарием к правозащитнику Белорусского Хельсинкского Комитета Павлу Левинову: «Согласно статье 13 Трудового кодекса Республики Беларусь принудительный труд запрещен. Читайте внимательно трудовой контракт (договор) и должностные обязанности. Если в них ничего не прописано об уборке урожая, то никто не имеет права вас принудить к выполнению такой работы. Что делать, если все же принуждают? Обратитесь в прокуратуру, которая обязана осуществлять контроль за соблюдением законодательства.»

**https://vkurier.by**

ВАКОЛ "МАТЫЛЬДЫ"

# ЧАМУ КАХАНЬНЕ АБ'ЯЎЛЕНА СЬВЯТАТАЦТВАМ

**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Павел асудзіў расейскі фільм «Матыльда» і заклікаў вернікаў яго не глядзець. Добра, што хоць не патрабуе забароны, не заклікае да анафэмы, не ладзіць хрэсны ход з пратэстам супраць паказу. Хоць, на мой погляд, такая скандальная ўвага да гэтага твору толькі робіць яму дадатковую рэкляму.**

Для беларусаў гэтыя расейскія спрэчкі малазразумелыя. Асоба Мікалая ІІ не выклікае тут ніякіх асаблівых эмоцыяў. У Беларусі не існуе ўплывовага грамадзкага руху, заснаванага на ідэалягічнай сумесі праваслаўя, манархізму і імпэрскасьці.

Праблема палягае ў тым, што Мікалай ІІ кананізаваны Рускай праваслаўнай царквой у якасьці сьвятога. І царква лічыць, што сьвятога нельга паказваць як звычайнага чалавека, тут ня можа быць ніякага мастацкага ўвасабленьня вобразу.

Рэч у тым, што кананізацыя Мікалая ІІ адбылася ў той кароткі пэрыяд постсавецкай гісторыі Расеі, калі ўсё, што рабілі бальшавікі і Савецкая ўлада, ацэньвалася са знакам мінус, а іхных палітычных праціўнікаў надзялялі ўсімі станоўчымі якасьцямі. Фактычна сьвятым яго аб'явілі толькі за сам факт пакутніцкай сьмерці. Царква паддалася агульнаму грамадзкаму настрою і тым самым стварыла тую праблему, якая цяпер вылезла на паверхню.

Праблема якраз у тым, што пакутнікам абвяшчаюць гістарычную постаць, палітыка, прычым не такога далёкага мінулага. І гэта вельмі спрэчнае рашэньне. Бо Мікалай ІІ, як і любы палітык, — вельмі супярэчлівая фігура, нават з гледзішча расейскай гісторыі. На ім ляжыць шмат грахоў. Гэта і «крывавая нядзеля» (расстрэл мірнага шэсьця рабочых у Санк-Пяцярбургу 9 студзеня 1905 году), і падтрымка чарнасоценцаў, вінаватых у габрэйскіх пагромах. А сумна вядомая распуціншчына прывяла да таго, што цар апынуўся ў ізаляцыі нават у асяродзьдзі імпэратарскай сям'і. І з гледзішча імпэрскай велічы Расеі кіраваньне Мікалая ІІ нельга назваць удалым. Ганебныя вынікі ў вайне Расеі зь Японіяй — гэта ўвогуле першая параза краіны эўрапейскай ці хрысьціянскай цывілізацыі у ваенным канфлікту з азіяцкай дзяржавай. І ў Першай усясьветнай вайне, падчас якой цар аб'явіў сябе вярхоўным галоўнакамандуючым, Расея атрымала ў асноўным паразы. Нямецкія войскі акупавалі вялікую частку імперыі, уключаючы палову тэрыторыі Беларусі.

А цяпер, паводле РПЦ, Мікалай ІІ — сьвяты. І гэта значыць, што нічога дрэннага пра яго пісаць, здымаць ці маляваць нельга. То бок і гістарычныя працы на тэмы ягонага цараваньня забароненыя? Відавочны абсурд. РПЦ сама стварыла сабе праблему, трапіла ў пэўную пастку.

Не менш цікавыя і такія разважаньні мітрапаліта Паўла. Маўляў, сёньня зьневажаем імпэратара Мікалая ІІ, заўтра будуць зьневажаць Уладзіміра Ільіча Леніна, а пасьлязаўтра — некага іншага. Пра некага іншага — гэта пра каго? Нават баюся рабіць здагадкі.

А вось пра Леніна — гэта цікава. З кантэксту гэтай фразы мітрапаліта вынікае, што зьняважлівыя творы пра Леніна — гэта яшчэ большае сьвятатацтва, чым пра Мікалая ІІ. Але ж менавіта са згоды «правадыра ўсясьветнага пралетарыяту» прыняў пакутніцкую сьмерць апошні расейскі цар і ягоная сям'я. То бок кат і ягоная ахвяра ўзводзяцца на адзін узровень? Дзіўная паралель.

А фільм «Матыльда» ў беларускіх кінатэатрах, нягледзячы на пратэсты царквы, пачне дэманстравацца ўжо з 26 верасня.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 29.09.2017 у 16.10
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.